№19(86)
14.06.96

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.

# ДА ЗДАРЭННЯ Ў "БМ"

*Пракурору г. Мінска*
*Купрыянаву Мікалаю Міхайлавічу*
*рэдакцыі рэспубліканскай незалежнай грамадска-палітычнай газеты "Беларуская маладзёжная"*

## ЗАЯВА

*Рэдакцыя газеты "Беларуская маладзёжная" даводзіць да Вашага ведама, што 7 чэрвеня ў памяшканні, дзе часова месцяцца тэхнічныя службы рэдакцыі, быў праведзены несанкцыянiраваны вобыск.*

*7.06.96г. пасля 17 гадзін у памяшканне без папярэджання і дазволу зайшоў старшы лейтэнант міліцыі, пасля патрабаванняў прад'явіўшы пасведчанне на імя Судакевіча Алега Браніслававіча. Спадар Судакевіч не патлумачыў мэты свайго візіту, паводзіў сябе наступальна. У памяшканні знаходзіліся супрацоўнікі рэдакцыі Сяргей Чырык (карэспандэнт) і Кастусь Елісееў (адказны сакратар), копіі тлумачальных запісак якіх прыкладаюцца.*

*Спадар Судакевіч па тэлефоне вызваў супрацоўнікаў міліцыі і людзей у цывільным, пасведчанне прад'явіў толькі адзін з іх — на імя Кіслова Р.І. Без усялякіх санкцый і панятых гэтыя людзі ператрасалі паперы, патрабавалі дакументацыю, патрабавалі паказаць, дзе "прыхаваны даляры", пагражалі нейкімі разборкамі. Пратакол вобыску не складаўся. Усім, хто ўваходзіў у памяшканне, дазвалялася ўвайсці і не дазвалялася выйсці.*

*Супрацоўнікам рэдакцыі было прапанавана пакінуць памяшканне, дзверы былі апячатаны пячаткай № 51 Цэнтральнага РАУС.*

*Опіс апячатаных у кватэры рэчаў не складаўся. У памяшканні застаўся зачыненым сабака гаспадара кватэры.*

*Пячатка была знятая 8.06.96г. заснавальнікам газеты і намеснікам галоўнага рэдактара Капчонавым Мікалаем Алегавічам пасля тэлефоннай заявы дзяжурнаму Цэнтральнага РАУС.*

*Ніякіх тлумачэнняў на сённяшні дзень (11.06.96г.) ад супрацоўнікаў міліцыі рэдакцыя не атрымала.*

*Просім даць прававую ацэнку дзейнасці названых супрацоўнікаў Цэнтральнага РАУС, прыняць адпаведныя меры па прадухіленню падобных незаконных дзеянняў у далейшым.*

*Пра прынятыя рашэнні просім паведаміць рэдакцыі.*

*З павагай*

***Галоўны рэдактар газеты "Беларуская маладзёжная" Т.Мельнічук***

Галоўнаму рэдактару газеты
«Беларуская маладзёжная»
Мельнічук Т.І.
адказнага сакратара
Елісеева К.М.

## тлумачальная запіска.

У пятніцу 7 чэрвеня каля 17.15 супрацоўнік крымінальнага вышуку Цэнтральнага РАУС старшы лейтэнант Судакевіч Алег Браніслававіч, скарыстаўшы момант сыходу з кватэры супрацоўніцы газеты В.Мамчыц, без прадстаўлення ўварваўся ў кватэру, дзе часова знаходзілася частка тэхнічнага абсталявання рэдакцыі. Спытаўшы гаспадара кватэры і даведаўшыся, што апошні часова адсутнічае, Судакевіч А.Б. распачаў агляд кватэры, нахабна сябе павёўшы, зайшоў у пакой, дзе было пастаўлена абсталяванне, і заявіў, што «шукае скрадзеныя рэчы». Пасля патрабавання аб прад'яўленні санкцыі на дагляд кватэры, заявіў, што паўнамоцтвы мае, і выклікаў па тэлефоне супрацоўнікаў аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі, пры гэтым заявіўшы, што ім «выкрыта нейкая штаб-кватэра БНФ». Пасля чаго правёў праверку дакументаў да прыбыцця супрацоўнікаў АБЭЗ і толькі пасля настойлівага патрабавання паказаў пасведчанне супрацоўніка МУС, якое мела форму і пячаткі старога ўзору, чым выклікала сумненне ў мэтазгоднасці прыходу названага супрацоўніка. Каля 17.45 прыбылі два чалавекі, адзін у форме сержанта міліцыі, другі ў цывільным. Пасля патрабавання прад'яўлення ўласных дакументаў і адпаведнай санкцыі, чалавекам ў цывільным было прад'яўлена пасведчанне на імя Кіслова Рамана Ільіча, супрацоўніка АБЭЗ. Названымі супрацоўнікамі быў праведзены вобыск кватэры (было агледзена абсталяванне, шуфляды сталоў і шафы), складанне пратаколу не праводзілася, панятыя адсутнічалі. У бок грамадзян, што знаходзіліся ў памяшканні, прагучала абвінавачванне ў парушэнні пашпартовага рэжыму (нібыта дакументы фальшывыя альбо непрыдатныя да карыстання). Каля 18.00 прыбылі тры чалавекі, два ў форме, адзін у цывільным, каторыя дакументаў не прад'яўлялі, але разам з астатнімі праводзілі дагляд кватэры. Быў запатрабаваны прыезд бухгалтара з фінансавымі дакументамі, дакументы на апаратуру і пасведчанне аб рэгістрацыі ксеракса. Нарматыўныя акты, неабходныя для абгрунтавання патрабаванняў, не называліся. Пасля атрымання тлумачэнняў, што ўсе неабходныя дакументы знаходзяцца па юрыдычным адрасе, было запатрабавана пасведчанне аб рэгістрацыі выдання і накладныя на вынас семісот пяцідзесяці нумароў газеты. Прадастаўленыя накладныя супрацоўнікаў не задаволілі, пасля чаго было заяўлена, што ўказаныя нумары газеты і ўсе тэхнічныя сродкі з'яўляюцца крадзенымі і падлягаюць арышту. Прад'яўленне тэхнічных пашпартоў на ўсё абсталяванне выніку не мела. Пасля чаго ў нахабнай форме было зададзена пытанне аб месцы знаходжання замежнай валюты, названай супрацоўнікамі міліцыі на крымінальным жаргоне «баксамі». Далей быў праведзены дагляд асабістых рэчаў, з пагрозай накласці арышт і на іх. Грамадзяне, што падчас вобыску заходзілі ў кватэру, падвяргаліся праверцы дакументаў без прадстаўлення з боку супрацоўнікаў міліцыі і тлумачэння неабходнасці гэтай працэдуры, з кватэры нікога не выпускалі.

Каля 19.00 вобыск быў скончаны, кватэра пакінута і апячатана пячаткай №51 Цэнтральнага РАУС. Пры гэтым названыя супрацоўнікі адмовіліся скласці пратакол, акт аб даглядзе памяшкання, опіс маёмасці і запрасіць панятых, чым выклікалі маё законнае абурэнне. Аднак заявілі, што канфіскацыю ключоў яны не праводзяць, а ў панядзелак разбяруцца, і калі нашы адказныя асобы паступяць «правільна», праблем не будзе.

**10.06.96**

# Все TV программы на неделю

(стр. 3-4)

## Як АБЭЗ маленькую сучку апячатаў

(ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА ШЧАНЮЧКІ БЭМКІ)



"Як добра той дзень пачынаўся! Прыехаў за мной гаспадар, сальцам пачаставаў, ды паабяцаў заўтра адвезці на травушку-муравушку, у вёску, на маё пастаяннае месца жыхарства. Ды і заўтра, на другую гадавіну газеты, госці павінны былі наведацца. Можа, і мне б чаго перапала. Але...

З'явіўся "госць" нежданы-нечаканы, ды ў форме, якую па адной з сабачых парод клічуць, ды пачаў паўсюды свой нос саваць, як бы нашы звычкі ўжо засвоіў. Добра, хоць лапу не задзіраў, бо вялікі бугай, не тое што я: мяне з-пад крэсла не відаць. Ды ўсё нейкую паперу патрабуе — якую не пакажуць, усё яму не падабаецца. А потым пачаў па тэлефоне званіць, яшчэ двое прыехалі і зноў пачалі шукаць, ды ўсё прычытаюць: "Дзе у вас "баксы" прыхаваны?" Гэта, відаць, тыя зялёныя бумажкі, за якія з замежжа новы сабачы корм возяць. Прынеслі мне яго аднойчы, пакаштавала — ні рыба, ні мяса, цьфу! Звычайныя сасіскі значна лепш. А потым пачалі пашпарты патрабаваць ды прапіску. Схавалася я ў самы цёмны вугал: бо ні пашпарту ў мяне няма (мяне ж на вуліцы падабралі, нават спачатку не ведалі: кабель я ці сучка), ні гаспадар мяне не прапісваў, бо часова тут знаходжуся. А тут яшчэ трое з'явіліся. Усё! Відаць забіраць пачнуць на Прылуцкую. Там як раз палітвязняў пачалі адпускаць, бо прысуджаны ім тэрмін пачаў канчацца. А з кожнага па 15 тысяч рублёў за дзень у кішэні міліцыянтаў ішло, трэба новых. А з мяне што ўзяць? Я ж дваравы народ, нікому непатрэбная, адвязуць у сабачую лячэбніцу, што побач, і скончыцца мае маладое жыццё. Дзякуй богу — абышлося. Гаспадароў адпусцілі, а мяне заперлі ў кватэры і нават дзверы апечаталі, так казаць, атрымаўся дамашні арышт. Зараз і я, БэМка, у ранг палітвязней трапіла. Так што, багатыя замежнікі, калі дапамогу будзеце прысылаць — і пра мяне не забудзеся. Ды баксамі, а не "Педыгрыпалам" каб адкупіцца. Да сяго лапу прыкладаю."

***БэМка, для "БМ"***

# "ГОД СОРОК ПЕРВЫЙ, НАЧАЛО ИЮНЯ. ВСЕ ЕЩЕ ЖИВЫ..."

# ЧАЛАВЕК. ЧАЛАВЕК. чАЛАВЕК?..

11 чэрвеня Беларускі Хельсінскі камітэт, Беларускі ПЭН-цэнтр, газета "Фемида" і Беларуская асацыяцыя журналістаў правялі "круглы стол" з абмеркаваннем сітуацыі



вакол правоў чалавека на Беларусі.

Абмеркаванне з удзелам вядомых праваахоўнікаў, парламентарыяў, палітычных дзеячоў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, журналістаў выявіла шырокі спектр праблем і не звялося толькі да канстатацыі, што з азначанымі правамі ў нашай краіне, пардон, "поўны швах". Грамада шукала шляхі выйсця і вызначала канкрэтныя дзеянні, паслядоўнасць неабходных актаў і рашэнняў для выпраўлення сітуацыі.

Прафесар **С.Багданкевіч**, дэпутат і лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі, адзначыў, што парушэннямі канстытуцыйных норм прасякнуты зараз усе сферы жыцця і дзейнасці на Беларусі, аднак праблемы правоў чалавека паўстаюць найбольш балюча і актуальна. Інтэлігенцыі варта прыняць папрок Станіслава Антонавіча, што не ўмее і не абараняе яна годна і публічна свой гонар. Слушнасць заўвагі Багданкевіча, што Канстытуцыяй гарантавана грамадзянам права на мітынгі і шэсці, а іншыя законы, інструкцыі, распараджэнні павінны толькі садзейнічаць выкананню гэтай гарантыі, падтрымалі практычна ўсе ўдзельнікі "круглага стала".

За невыкананне канстытуцыйных гарантый, перашкоды і тым больш нахабнае папранне правоў улады і непасрэдныя выканаўцы іх загадаў павінны несці адказнасць. **К.Шэрман**, прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра, прафесар **Ю.Хадыка** і іншыя ўдзельнікі размовы лічаць неабходным прыцягнуць да адказнасці гарадскія ўлады і асабіста мэра спадара Ярмошына за ўвесь той жах і беспраў'е, што творыцца ў сталіцы на працягу ўжо трэцяга месяца. Ю.Хадыка паведаміў некаторыя цікавыя падрабязнасці па арганізацыі Чарнобыльскага Шляху: "дазволіць — не дазволіць" вырашалася ў гарвыканкаме і 21-га і 24-га, прычым, з палярнымі вынікамі (Чарнобыльскаму Шляху было прапанавана нават далучыцца да прэзідэнцкага Бангалора!). На тэрміновым паседжанні пасля абеду 24-га дазволілі правядзенне мітынгу ля Палацу Спорта, але адмовілі ў шэсці. Папярэднія ўзгадненні з міліцыяй не прадугледжвалі ніякіх расправаў, перашкод: цвяроза меркавалася напачатку, што пры вялікай колькасці людзей давядзецца прыпыніць рух транспарту, скарэктаваны быў маршрут.



Хто аддаў загад учыніць бойку? Хто, дарэчы, перакульваў тыя міліцэйскія легкавушкі? Калі дзесяткі плёнак былі адзнятыя "спецаператарамі", хіба цяжка пазнаць парушальнікаў? І ці не таму яны дагэтуль не вядомыя, што на стужках зафіксавана: гэта — не БНФаўцы, не унсоўцы. Хто?

Яшчэ адна дэталь: "абвінаваўчы пафас" тэлевізійнага сцвярджэння, што "правакатары-арганізатары" схаваліся па машынах і адтуль кіравалі шэсцем, абвяргаецца **Л.Баршчэўскім**: гэта ён па дамове і патрабаванню міліцыі (!) карыстаўся машынай з гукаўзмацняльнікам — для арганізацыі шматтысячнага натоўпу. Дарэчы, Лявон Баршчэўскі, выконваючы абавязкі старшыні БНФ, выйграў справы ў судах, з яго знятыя абвінавачванні, нагрувашчаныя пасля 2 і 26 красавіка. Праўда, сам спадар Баршчэўскі справядліва мяркуе, што на сумлены суд у нас ёсць з дзесятак процілеглых, магчымыя і пратэсты на гэтыя рашэнні, і перагляд.

Будзе разгромлена апазіцыя — не будзе каму ўвогуле абараняць правы чалавека, лічыць **Вячаслаў Сіўчык**, адзначаючы, што ўзрастае шырыня апазіцыі антынароднаму рэжыму, падхопліваючы новых людзей, новыя грамадскія арганізацыі, рухі.

Праўда, **Ю.Петруша**, прадстаўнік Партии Здравого Смысла, практычна абверг гэтае сцвярджэнне: Партия Здравого Смысла звярнулася да Ярмошына з просьбай утварыць у Мінску своеасаблівы "гайдпарк" — месца для мітынгаў, пікетаў, галадовак, "выпускання пары". Адказа пакуль не маюць, але лічаць, што калі ўлады дайшлі да "оголтелых расправ" і мы стаім "на пороге гражданской войны — с заточками, арматурой и пулями в ответ", трэба спыніцца, "предотвратить трагические последствия". Спадар Петруша паведаміў, што грамадскі рух у абарону Канстытуцыі прыняў рашэнне не ўдзельнічаць ані ў якіх мерапрыемствах 22 чэрвеня.

Вельмі эмацыянальным было выступленне журналіста **Алеся Мікалайчанкі** з прапановаю прыняць закон аб адказнасці за неканстытуцыйныя дзеянні, закон, які дазволіць не выконваць антыканстытуцыйныя загады, дасць права на самаабарону чалавеку, правы якога нялюдскім чынам абвяргаюцца.

Дэпутаты спадары **Бухвостаў** і **Нісцюк** былі куды больш памяркоўныя — відаць, па традыцыях, што ўсталяваліся ў Авальнай зале. Абодва канстатавалі, што законы трэба ствараць і ўдасканальваць, але законы не выконваюцца. Звярнулі ўвагу, што абараняць свае права людзі павінны і самі, павышаючы сваю прававую адукаванасць. Ул.Нісцюк згодны, што палажэнне Канстытуцыі пра мітынгі і шэсці трэба "развіць" у спецыяльным законе, але не можа даць гарантый, што закон будзе працаваць: улады — усе галіны ўлад — не здольныя зараз прывесці жыццё ў адпаведнасць з прынятымі законамі, а выканаўчая ўлада ўвогуле зневажае закон. Што рабіць з такімі ўладамі і такім жыццём, дэпутаты яшчэ, відаць, не дамовіліся: інакш бы ўсё хоць бы пачало прыходзіць у адпаведнасць. І ці хочуць дамаўляцца? "Не зацикливайте круглый стол в рамках и на проблемах одного дня, — заклікаў Ул.Нісцюк, — дождитесь выводов и решений соответствующих органов".

Толькі хто б даў адказ: колькі і чаго яшчэ чакаць?

Нельга было бясстрасна слухаць расповеды людзей, што пацярпелі 24 сакавіка, 26 красавіка ці 30 мая. Збіенні, знявагі. Парушэнні судовай працэдуры. Здзек. Нібыта шайка шакалаў захапіла Мінск і Беларусь, абвяргаючы, знішчаючы ўсе жывое, сапраўднае, годнае.

Дэпутат **Анатоль Лябедзька** паведаміў, што няхай не з першай "папыткі", але Вярхоўным Саветам створана Часовая камісія па расследванню падзей, што мелі месца ў Мінску да і пасля 26.04. і 30.05. У камісіі 12 дэпутатаў, узначальвае Таццяна Хадкевіч. Камісіі патрэбны факты і дакументы — ад ўсіх (тэлефон А.Лябедзькі 22-60-44, у камісію ўваходзяць таксама Ганчар, Бухвостаў, Абрамава). Дэпутаты будуць дабівацца прамой трансляцыі па БТ выніковага дакладу камісіі.

Прынцыповую пазіцыю і жаданне дапамагчы прадэманстравалі незалежныя юрысты, грамадзянскія пазіцыі журналістаў таксама былі акрэсленыя.

Удзельнікі "круглага стала" прынялі аб'ёмістую і грунтоўную заяву — "Беларуская маладзёжная" надрукуе гэты дакумент у наступным нумары.

*Т.Мельнічук, "БМ"*

## Энтузиастам полицейских дубинок

Всем воздастся по заслугам,
Всем воздастся по делам:
Проходимцам и их слугам
И цепным хозяйским псам.

Кто сегодня ПРАВДУ топчет —
Завтра будет жить во тьме,
Кто попрать СВОБОДУ хочет,
Сам окажется в тюрьме.

***Василь Писарчук***

